# Сон Архіпа

(Заканчэньне зь 9-ай бачыны)

ляры выдаўца. Зьлева ад яго сядзеў кіраўнік фінансавага аддзелу выдавецтва. Ён, як выглядала, не праймаўся паднятым настроем у кабінэце, і жуючы цыгару, гартаў таўшчэзны манускрыпт. Зьмест яго ня цікавіў — ён проста пералічваў балонкі.

З фатэлю насупраць пісьмовага стала прыпадняўся чалавек. Хоць ён стаяў да мяне плячыма, я пазнаў Ул. Дудзіцкага.

— Ну, ведаеце, — пачуў я ягоны прыглушаны голас, — гэта проста-ткі няўдзячнасьць. Нябось, калі некалі фінансава стаялі слаба, дык я пушчаў Вашы скрыпты ў радыі...

Звычайна спакойны й зраўнаважаны выдавец, відаць, раззлаваўся не на жарты. Ён аж падскочыў на сваім фатэлі:

— Гэта ўжо зашмат! Калі-б я тады спадзяваўся на вас, дык ужо тры разы з голаду памёр-бы. Або давайце дамовімся: я буду зацягваць з вашым зборнікам так доўга, як вы калісьці з маімі скрыптамі. Як, згаджаецеся?

Ён сьцішыў раптам голас, і навонкі спакойна, але катэгарычна дадаў:

— Паўтараю яшчэ раз: нашае апошняе слова — 50 тысяч. Ні фэніга больш. У нас вунь яшчэ восем манускрыптаў, і аўтары не абы-якія. Што вы на гэта? — зьвярнуўся ён да загадчыка фінансавага аддзелу.

Я не дачуў, што той буркнуў у вадказ. Прычыніўшы дзьверы, незаўважаным вярнуўся ў прыёмную. Крушына сядзеў там на старым месцы. Цяпер ён трымаў перад сабой свой манускрыпт, і бязгаласна, з асалодай, варушыў вуснамі. Напэўна перачытваў свой апошні верш ці паэму. Калі я голасна прывітаўся, ён ледзь з крэсла не зваліўся:

— А... А... Гэта вы?

— Дальбог я, спадар Крушына. Чакаеце?

— Ліха, Дудзіцкі апярэдзіў. Ведаеце, — тут ён таямніча азірнуўся, — Дудзіцкі прынёс свой другі зборнік — зборнік — гэтым разам прозы. Баіцца, каб я перад ім ня выдаў свайго трэйцяга, — ён ткнуў пальцам у манускрыпт, — ледзь не пабіліся мы зь ім пры ўваходзе...

— А што чуваць наагул у вас, спадар Крушына?

— Нічога, жывецца. Дзякуй Богу, працаваць збоку ўжо больш не даводзіцца — нядрэнна жыву й з ганарараў. Як думаеце, на колькі можна разьлічваць за гэты? Каранеўскі ўжо ў прынцыпе прыняў, цяпер толькі справа ганарару.

— Ня ведаю, таргуйцеся. Але я-б вам радзіў прыйсьці лепш заўтра, бо Дудзіцкі вывеў нешта выдаўца з раўнавагі. Ужо й так урадавыя гадзіны скончыліся.

— Думаеце?..

— Па мне рабіце, як хочаце. Але ведаеце, як шмат залежыць ад настрою... — Бачачы, што словы мае падзейнічалі, я працягваў: — Вы прыгадваеце, сп. Крушына, як Вы, прыехаўшы з Амэрыкі, папыталіся ў мяне, колькі маем асобаў пэрсаналу ды ці вялікае памешканьне займае наша выдавецтва? Я, як памятаеце, тады толькі ўсьміхнуўся. А вось цяпер мы маем з вамі крыху вольнага часу. Хочаце — я вас, як той Віргіль Дантэ па пекле, абвяду па выдавецтве.

Крушына ахвотна згадзіўся. Ня думаючы, што галоўны рэдактар прыйдзе раней, як за паўгадзіны, я пастанавіў хоць з большага азнаёміць нашага ведамага паэту з выдавецтвам. Сьпярша спусьціліся мы наніз, дзе зьмяшчалася друкарня. У прасторнай, ярка асьветленай залі нельга было пачуць свайго собскага голасу з-за шуму ратацыйных машынаў. Іх было пяць. Мы падыйшлі да першае, і я спрытна падхапіў з лапак сьвежа надрукаваны аркуш, і крыкнуў:

— Бачыце? Апошні аркуш «Навуковае граматыкі беларускае мовы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Вы, здаецца, бралі таксама ўдзел у падрыхтоўцы?

— А як-жа! Я, прыкладам, давёў, што паходжаньне слова «вербаваць», «вярбоўка» зусім не нямецкае, а чыста беларускае...

— Так, так! Але пойдзем далей.

Мы мінулі ратацыйныя машыны й падыйшлі да шклянае сьцяны. За ёю была іншая падобная заля, толькі застаўленая лінатыпамі. Я пачаў Крушыну тлумачыць:

— Чатыры першыя працуюць увесь час на тры зьмены толькі для пэрыядычных выданьняў «Бацькаўшчыны». Два наступныя стала занятыя цяпер набіраньнем шасьцітомнае «Энцыкляпэдыі Беларусаведы» — таксама падрыхтаванай БІНіМам. Між іншага, Інстытут перасылае матар'ял зь перабоямі, і мы яго за гэта як належыцца лаем. Непаважнаж — такая навуковая ўстанова ня можа навет здабыцца на сыстэматычнасьць у сваёй працы!

Два далейшыя лінатыпы набіраюць цяпер навукова-папулярныя працы аб Беларусі — адзін у ангельскай, другі ў французскай мовах. А вунь гэныя два заўсёды занятыя набіраньнем твораў нашых эміграцыйных пісьменьнікаў.

Рыгор Крушына пачухаў сваю паэтычную галаву.

— Усё-ткі замала — толькі два лінатыпы на нашага брата. Я гляджу, што мусіў чакаць аж тры тыдні із сваім апошнім зборнікам. Я не адказаў нічога й мы пайшлі далей. Паказаўшы фатаграфічную студыю выдавецтва, павёў я паэту зноў на гару. Мы ўвайшлі ў так добра знаёмы мне калідор.

— Тут, як ведаеце, разьмешчаная сама рэдакцыя. У кабінэце выдаўца былі, галоўнага рэдактара — таксама. Заглянем далей. Гэта кабінэты рэдактароў — кіраўнікоў паасобных аддзелаў.

Мы затрымаліся перад дзьвярыма з таблічкай **«пс»**. Я адчыніў дзьверы й улучыў электрычнасьць. Матавае сьвятло разьлілося па кабінэце.

— А... А... Гэты кабінэт мне нешта нагадвае, — зноў пачухаў патыліцу паэта.

— Вы не памыляецеся; ён пабудаваны й абсталяваны ў стылі „Moulin Rouge“, інакш кажучы — у кабарэтным стылі. Наш паважаны калега ПС цьвердзіць, што толькі такая атмасфэра выклікае ў яго натхненьне. Цэнячы ягонае супрацоўніцтва, выдавецтва ўзяло на ўвагу ягоныя пажаданьні пры пабудове новага будынку. Ёсьць ужо й вынікі. Чыталі ягоную апошнюю паэму «За мінулы тыдзень»? Бадай — што можа зраўняцца з паэмай Кірсанава «Сем дзён тыдня»!..

Акінуўшы вокам мяккія крэслы, пісьмовы стол, на якім стаялі чатыры пустыя шклянкі з вобразам казла, я хацеў ужо вылучыць сьвятло. І тут толькі заўважыў, што сп. Крушына зусім не зварочвае на мяне ўвагі: ён напэўна ня чуў і маіх тлумачэньняў, студыюючы на сьценах здымкі лёгка (калі наагул) апранутых дзяўчат.

Я шматзначна кашлянуў. Крушына расьцярушана павярнуўся:

— А для натхненьня гэта важна...

Я адчыніў дзьверы кабінэту Галубіцкага.

— Як бачыце, тут зусім іншая атмасфэра — можна сказаць, пралетарская. Зьвярнеце ўвагу на гэты дубовы пісьмовы стол. Ён хутчэй нагадвае стол у піўным ці вінным пограбе. Справа ў тым, што пры пісаньні сваіх артыкулаў Галубіцкі любіць чуцца, як дома. А гляньце цяпер на гэты подыюм насупраць стала. У выпадку асабліва цяжкой праблемы, рэдакцыя выклікае трох скрыпачоў з вугорскага рэстарану. Пад іхныя рапсодыі й іхныя чардашы Галубіцкі грызе праблемы, як гарэхі. Больш паказаць вам тут няма чаго, бо сакратарка Галубіцкага не працуе.

Калі мы ўвайшлі ў кабінэт Залужнага, і я запаліў сьвятло сп. Крушына тры разы размашыста перахрысьціўся. Я глянуў на сьцяну насупраць, і зразумеў.

— Не, вы памыляецеся, спадар Крушына. Гэта ня ікона сьвятога Міколы — гэта партрэт самога Залужнага. Бадай усе робяць тую самую памылку ад таго часу, як ён загадаваў вусы й бараду.

Я азірнуўся навокал і заўважыў яшчэ адну рэч, акое дасюль тут ня бачыў. На іншай сьцяне вісеў у рамках надпіс: «Гарэлка — вораг гістарычнай навукі». І подпіс: «П. Залужны». Мне чамусьці зрабілася дрэнна, і я выцягнуў адтуль паважанага паэту за рукаў.

— Рэшту кабінэтаў вам паказваць цяпер ня буду — можа іншым разам. Варта было-б паглядзець на кабінэт Ю. Дубовіка — рэдактара заплянаванага, хоць яшчэ няўведзенага зарубежніцкага кутка, але цяпер няма часу. Пойдзем цяпер на гару, у тэхнічны аддзел.

— Гэта агульны сакратарыят. Цяпер у нас ня так, як было калісьці. Кажны ліст, прыкладам, адказваецца на працягу 20 хвілінаў ад часу атрыманьня. А вось кальпартажны аддзел. — Праз адчыненыя дзьверы было відаць некалькі працаўнікоў у шэрых халатах, што завіхаліся каля машынаў. — Яны працуюць на дзьве зьмены. Цяпер у нас не здараецца больш такіх выпадкаў, што людзі, выпісаўшы якуюсьці кнігу ці часапіс, чакаюць тыднямі, ці навет месяцамі. Гэтак было тады, — і я тут пагардліва ўсьміхнуўся, — калі пару дзівакоў вялі саматужна выдавецтва ў вольны ад працы час... А цяпер пакажу вам аддзел тэлетыпаў. Мы адначасна прыймаем інфармацыі ад Юнайтэд Прэс Асошыейтэд Прэс, ДПА, Ройтэр, ТАСС і БЕЛТА. Тэлетыпы працуюць 24 гадзіны...

— Гэр Папліска!

Па сходах бег задыхаўшыся партʼер.

— Вас ужо дзесяць хвілін чакае галоўны рэдактар.

«Гонг-Конг», — падумаў я. Ад страху абліўся халодным потам і... прачнуўся.

**Архіп Папліска**

# Людзі вялікае штодзённае справы

У шматлікіх прывітаньнях, як ад беларускіх арганізацыяў, так і ад паасобных чытачоў з усіх краінаў пасяленьня нашае эміграцыі, Рэдакцыі выказваецца падзяка й удзячнасьць за ейную працу. Прыемна чытаць словы пахвалы...

Так яно ўжо ў жыцьці вядзецца, што адныя за сваю працу атрымоўваюць падзякі, пахвалы, іншыя — застаюцца ў цені, ня гледзячы на тое, што праца іх ня менш мазольная, ахвярная й важная.

Маем на ўвазе тых, што ў паасобных краінах выконваюць часта няўдзячную, але як-жа карысную ролю прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны».

Нельга, адзначаючы юбілей газэты, не ўшанаваць вялікае ахвярнасьці й бязінтэрэсоўнасьці тых распаўсюджвальнікаў беларускага друкаванага слова, ад якіх, можа, у найбольшай ступені залежыць, асягненьне мэты, што ставіць перад сабой нашая прэса й кнігі. Газэта бо тады апраўдвае сябе, калі яе чытаюць і задумоўваюцца над тым, аб чым гаворыцца ў ёй. Дык каму-ж пашана, калі ня людзём, якія дбаюць аб пашырэньні ліку ейных чытачоў?

Да гэткіх у першую чаргу трэба залічыць сп. Браніслава Даніловіча, галоўнага прадстаўніка «Бацькаўшчыны» ў ЗША, які ўжо больш за шэсьць год аддана служыць справе пашырэньня сярод сваіх суродзічаў беларускае прэсы й кніг. Сп. Даніловіч ня толькі прадстаўнік выдавецтва, ён чалавек, закаханы ў сваю справу; патрыёт друкаванага слова; асоба, што найпаўней зразумела адказнасьць свайго заданьня. І запраўды, ён нічога не шкадуе для справы друку.

Сем гадоў таму сп. Б. Даніловіч пачаў справу зь нічога. Трэба было напорыстасьці й умельства, каб пазнайходзіць людзей, прыдбаць падпішчыкаў, пазаводзіць картатэкі, упарадкаваць справаводзтва й сыстэматычна даглядаць гэтае складанае й цяжкое справы.

Робіць усё гэта ён ня толькі з дакладнасьцяй, але й зь пераканаьнем. І гэтае выказзаньне на справе сваіх глыбокіх пачуцьцяў да грамадзкага абавязку ў яго ня прыпадковае.

Спадару Даніловічу сорак дзявяты год. Сам ён зь Віленшчыны. Сын селяніна. Цэлы ягоны жыцьцёвы шлях зьвязаны зь беларускай нацыянальнай працай. Ягоныя нацыянальныя перакананьні атрымалі моцнае загартаваньне яшчэ тады, калі зза свае беларускасьці ён змушаны быў пакінуць Барунскую настаўніцкую сэмінарыю. Палякі ніяк не маглі ўцяміць, як гэта каталік можа быць адначасна беларускім патрыётам.

Як бачым, патрыятызм свой дэманстраваў ня толькі малады студэнт Даніловіч — штодзённа выказвае яго й чалавек ужо зь сівізной у валосах, з абавязкамі галавы сямʼі ды із спрацаванымі на хвабрыцы рукамі.

Ці-ж ня можа таксама выклікаць падзіву ахвярнасьць іншага нашага прадстаўніка сп. Ул. Дунца! Паміма шматлікіх іншых грамадзкіх абавязкаў, якія яму даводзіцца выконваць у вялікім і добразарганізаваным беларускім асяродку Кліўленд, ён знаходзіць час, магчымасьці й ахвоту служыць справе пашырэньня беларускага друкаванага слова. Ня гледзячы на свой выдатны ўклад у гэтую справу, ён піша: «У дзесятыя ўгодкі нашае дарагое газэты «Бацькаўшчына» мне вельмі прыкра, што так мала



зрабіў для яе...» Мы-ж із свайго боку лічым, што калі-б кажны беларускі патрыёт даў хаць пэўную частку таго ўкладу для «Бацькаўшчыны», што сп. Дунец, у нас справа прэсы й выдавецтва стаяла-б куды вышэй.

Спадара Акулу нашы чытачы ведаюць ня толькі як прадстаўніка «Бацькаўшчыны» на Канаду. Ягоныя шматлікія карэспандэнцыі, артыкулы й фэльетоны часта зьмяшчаюцца на бачынах нашае газэты. Але так як у дадзеным выпадку йдзе аб прадстаўніцтве «Бацькаўшчыны», дык мы й мусім асабліва падчыркнуць адданасьць сп. Акулы якраз у гэтай галіне. У Канадзе, дзе столькі нашых суродзічаў, дзякуючы сп. Акулу справа «Бацькаўшчыны» знаходзіцца ў надзейных руках.

«Стараюся выконваць дабравольна прыняты на сябе абавязак для дабра га-



зэты, а перадусім самых чытачоў...» — піша ў Рэдакцыю адзін з нашых прадстаўнікоў на Аўстралію, сп. Паляшук, які ня гледзячы на свае іншыя, як грамадзкія, так і сямейныя, абавязкі, шчыра й з адданасьцяй працуе ў гэтай галіне на аўстралійскім груньце.

Раней яшчэ, у той-жа Аўстраліі, аддаўшыся душэй і целам грамадзкай справе, на карысьць «Бацькаўшчыны» й ейных чытачоў працаваў старшыня Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Аў-



страліі й Новай Зэляндыі сп. Д. Яцкевіч, які, зрэшты, і цяпер трымае з «Бацькаўшчынай» лучнасьць. «З прыемнасьцяй адзначаю, што тая праца й пачуцьці, якія аддаў я «Бацькаўшчыне» — не забытыя...» — піша сп. Яцкевіч, ды дадае, што ён будзе заўсёды ў ліку тых, якія для «Бацькаўшчыны» працавалі й працуюць.

Сп. А. Васіленя, таксама адзін з нашых шчырых супрацоўнікаў і прадстаўнікоў у Аўстраліі, лічыць сабе за гонар



бязінтэрэсоўна працаваць для грамадзкае справы, а выконваньне абавязкаў прадстаўніка — гэта й ёсьць, паводля ягоных словаў, ужо **канкрэтная** грамадзкая праца.

Словы шчырае падзякі й удзячнасьці перасылаем сяньня і ўсім іншым нашым ахвярным прадстаўнікам: сп. сп. Булыгу, Нагорнаму, Міцкевічу, Каштэляну (Францыя), сп. Лашуку (Ангельшчына), сп. Беленісу (ЗША), сп. сп. Марозу, Акавітаму (Аўстралія).

На працягу нашага супрацоўніцтва бывала парознаму: здараліся й выпадкі непаразумленьняў між адміністрацыяй ці рэдакцыяй газэты й паасобнымі прадстаўнікамі. Але тут якраз і выяўлялася, наколькі нашым прадстаўніком важным было дабро газэты, бо хоць «цені» ў супрацоўніцтве найчасьцей былі спрычыненыя з нашага боку, ніколі ніводзін прадстаўнік газэты й выдавецтва ня ставіў справы ўльтыматыўна, а заўсёды імкнуўся знайсьці запраўдныя прычыны ды разумець цяжкасьці як адміністрацыі, так і рэдакцыі. У выніку-ж — супрацоўніцтва толькі ўзмацнялася.

Адзначаючы дзесяцігодзьдзе працы й дасягненьняў «Бацькаўшчыны», трэба асабліва падчыркнуць вялізарны ўклад у гэтую працу й дасягненьні нашых ахвярных прадстаўнікоў, для якіх «Бацькаўшчына» сталася справай і працай для Бацькаўшчыны.

**Рэдакцыя**

# А сланя і не заўважылі

(Заканчэньне зь 4-ай бачыны)

даўніцтва й сельскае гаспадаркі — сяляне й работнікі-стаханаўцы. Вось яно што! Даводзілася бачыць і перадавікоў-**калгасьнікаў** і стаханаўцаў-**работнікаў**, але яны былі зусім непадобныя на гэтых таўшчэзных дзядзькоў, што напамінаюць хутчэй «уолстрытаўскіх акулаў», як іх размалёўвае «Кракадзіл». Няўжо аўтары запраўды ня ведалі, якіх «перадавікоў» яны фатаграфавалі? А калі ведалі, дык пашто так нахабна зьдзекваюцца над гледачамі?

... Цягнік ідзе на цаліну... Упрыгожаныя вагоны, вясёлая моладзь, музыка... А камэнтатар захапляецца энтузіязмам савецкае моладзі, якая з такой радасьцяй едзе выконваць гіганцкія пляны Хрушчова. Пабачыўшы такі энтузіязм, нейк цяжка зразумець, чаму савецкая прэса так часта зьмяшчае на сваіх бачынах скаргі партыйных і камсамольскіх кіраўнікоў на «нясьведамасьць» моладзі, на ўхіляньне ад паездкі на тую-ж цаліну, на ўцёкі адтуль і г. д. Няўжо ў пытаньні цаліны савецкая прэса менш паінфармаваная, чымся камэнтатар гэтага фільму?

... Цудоўная Багаслужба ў Армянскай царкве... Сусьцігі на рэнах на поўначы... Першамайскі парад... Ізноў маўзалей «важдзёў» і самыя «важдзі»... Маскоўскі стадыён... Балет... — вось яна «Расея сяньня»!

Охаюць і ахаюць Немцы: «Цудоўна!» «Надзвычайна!» «Нячувана!» «Нявідана!» Пабачыўшы такія цуды, як-жа звычайны сьмяротны мешчанін паверыць каму-небудзь, што дзесьці ёсьць канцэнтрацыйныя лягеры, што дзесьці ёсьць напоўгалодныя калгасьнікі, што дзесьці ёсьць нялюдзкая эксплятацыя працоўных масаў гордай партыйных бюракратаў! Як паверыць ён, што дзесьці ёсьць народ, абавязкам якога толькі слухаць і выконваць загады сваіх прыгнятальнікаў!

А аўтары фільму магчыма й задаволеныя, што спрычыніліся да «адхіленьня» зялезнае заслоны, й паказаньня «Расеі», якую «бачылі собскімі вачыма».

Вырываць вока, калі яно грэшыць, дык можа й ня варта, але калі язык ня кажа **ўсяе** праўды, дык пажадана маўчаць. Хто як хто, але камэнтатар фільму мусіў ведаць, што неказаньне **ўсяе** праўды, — гэта таксама хлусьня!

**А. Галубіцкі**

